РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

КОШТ 3 РУБЛІ

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №23. 14 ЧЭРВЕНЯ 1993 ГОДА.

СЁННЯ:



Мала93ечна

стар. 4 — 5

## ДЫЯЛОГ, ЯКІ ЧАКАЕ ПРАЦЯГУ

*Госця нашай рэдакцыі мы вырашылі сфатаграфаваць у Дзяржаўным мастацкім музеі каля партрэтаў яго знакамітых продкаў. З жывапісных палотнаў вядомых і невядомых майстроў у старажытным адзенні паўставалі праз стагоддзі Юрый і Януш, Катажына і Марыя Радзівілы... А ён — сучасны еўрапейскі чалавек, які толькі прыехаў з Парыжу, — унук князя Альбрэхта Радзівіла, колішняга ўладальніка Нясвіжскага замка...*

*Гутарка з нашчадкам славутага роду* Мікалаем Тамашэўскім — *на стар.7.*

Фота Генадзя ЖЫНКОВА.

# ПАНЯДЗЕЛАК: ПАДЗЕІ, ІНФАРМАЦЫЯ, КАМЕНТАР

## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

У Таліне прайшла міжнародная канферэнцыя вучоных-славістаў, прысвечаная праблемам захавання і развіцця нацыянальных асаблівасцяў ва ўмовах замежжа. З'ехаліся больш за 50 вядомых навукоўцаў з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Пскова, Ноўгарада, Кіева, Вільні, Рыгі, Таліна. Былі запрошаны таксама і беларускія вучоныя.

У дні ўрачыстасцяў прайшлі мерапрыемствы традыцыйнага свята песні і танца «Славянскі вянок» — 93. На гэты раз у Талін, які стаў для краін СНД «дальнім замежжам», прыехалі каля 3000 самадзейных артыстаў, у тым ліку 85 беларускіх майстроў мастацтва.

Адбыліся набажэнствы ў кафедральным саборы Аляксандра Неўскага і іншых праваслаўных храмах, урачыстыя шэсці ўдзельнікаў свята па цэнтральных вуліцах Таліна, канцэрты на старажытных плошчах і ў буйнейшых культурных установах.

У Магілёве прайшла выязная сумесная нарада па выніках планавай праверкі выканання Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб дадатковых мерах па спыненню прапаганды парнаграфіі, культу насілля і жорсткасці». У мерапрыемстве прынялі ўдзел адказныя супрацоўнікі Міністэрства культуры, Дзяржаўнага Рэгістра кінавідэафільмаў і кінавідэапраграм, Рэспубліканскай экспертнай камісіі па прадухіленню прапаганды парнаграфіі, культу насілля і жорсткасці, а таксама прадстаўнікі мясцовых улад, упраўлення ўнутраных спраў, пракуратуры, падаткавай інспекцыі, упраўлення культуры, ВА «Кінавідэапракат», журналісты.

Наступная падобная нарада хутка адбудзецца ў Гомелі.

«Дзякуй вам, людзі!» — так называецца Беларускі фестываль майстроў мастацтва, які скончыўся ўчора ў гарадах Гомельскай вобласці: Брагіне, Хойніках, Мазыры, Нароўлі.

У ім прынялі ўдзел лепшыя выканаўцы, эстрадныя і мастацкія калектывы Беларусі.

Учора ў Чачэрскім раёне Гомельскай вобласці (раёне, забруджаным у выніку аварыі на ЧАЭС) адбылося свята «Гармоні» з удзелам гарманістаў і прыпевачнікаў — музыкаў з Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці і Кулікоўскага раёна Чарнігаўскай вобласці (Украіна).

Наш кар.

## ДА ЎГОДКАЎ ПАЎСТАННЯ

Па ініцыятыве Камісіі БНФ па культуры і гісторыі створаны Нацыянальны арганізацыйны камітэт па святкаванні 200-х угодкаў Вызвольнага Паўстання 1794 года на Беларусі.

У склад аргкамітэта ўвайшлі прадстаўнікі БНФ «Адраджэнне», Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, Згуртавання беларускай шляхты, Беларускага згуртавання вайскоўцаў, Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Беларускай сялянскай партыі, Беларускага фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Л.Сапегі, Акадэміі навук Беларусі, Беларускага краязнаўчага таварыства, Камісіі па культуры Мінгарвыканкама, Саюза пісьменнікаў Беларусі, Саюза мастакоў Беларусі, Саюза кампазітараў Беларусі, Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, Жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху Беларусі, Беларускай грэка-каталіцкай царквы, Беларускага эвангелічнага рэфармацыйнага збору, Выбранецкіх шыхтоў Беларусі.

Старшынёй аргкамітэта абраны Мікола Купава — сябра Саюза мастакоў Беларусі.

На пасяджэнні аргкамітэта 3 чэрвеня створаны рэдакцыйная, выдавецка-інфармацыйная, пошукава-мемарыяльная, навуковая камісіі; разгледжана праграма святкавання.

## НЕ ТОЛЬКІ МЕЦЭНАЦТВА

На Вучоным Савеце Белдзяржуніверсітэта было, як ніколі, шматлюдна. Пасяджэнне было прысвечана наданню звання ганаровага доктара універсітэта доктару мастацтвазнаўства, кавалеру ўрадавых узнагарод многіх краін, ганаровому доктару Варшаўскага і Мексіканскага універсітэтаў Анджэю Цеханавецкаму з князёў Мсціслаўскіх і Заслаўскіх. «Апроч шматлікіх артыкулаў і прац па гісторыі культуры ва ўсім свеце вядомая яго манаграфія «Міхал Казімір Агінскі і яго «сядзіба музаў» у Слоніме», якая неўзабаве выйдзе і ў нас, — сказаў у сваёй прамове, прысвечанай дзейнасці сп.Цеханавецкага, Прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, вядомы вучоны А.Мальдзіс. — Шмат зроблена ім для наладжвання беларуска-заходнееўрапейскіх кантактаў. Так, у канцы мінулага года адбылася міжнародная канферэнцыя ў Венецыі па беларуска-італьянскіх сувязях... Без яго клопатаў, бадай, і не была б устаноўлена памятная дошка Ф.Скарыне ў Падуанскім універсітэце... Можна многае пералічваць, але галоўнае — у асобе А.Цеханавецкага мы маем не толькі «мецэната», але і цікавага дзеяча Культуры».

На Вучоным Савеце выступілі дзеячы беларускай культуры А.Лойка, А.Грыцкевіч, а таксама пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі Э.Смулкава.

Наш кар.

## ЗМЯСТОЎНАЯ ПРАГРАМА

Напрыканцы мая на радзіме славутага Каперніка ў старажытным польскім горадзе Toруні прайшоў Міжнародны тэатральны фестываль. Афіша яго была насычана імёнамі вядомых калектываў з Нідэрландаў, Славакіі, Грузіі, Германіі, Чэхіі, Украіны, Эстоніі, Літвы, Румыніі, Польшчы.

Беларускую сцэну прадстаўлялі купалаўцы. Яны прыехалі ў Торунь ужо другі раз. Першая сустрэча адбылася ў 1991 годзе, калі В.Раеўскі дэманстраваў тут свой спектакль «Крык на хутары» Ул.Бутрамеева. Сёлета мастацкі кіраўнік тэатра рэжысёр В.Раеўскі і акцёры С.Краўчанка, А.Іваннікава, А.Мілаванаў, А.Гарцуеў, М.Громава пазнаёмілі прафесіяналаў і аматараў тэатральнага мастацтва са сваёй новай работай — спектаклем «3 нагоды мокрага снегу», створаным паводле рамана Ф.Дастаеўскага «Запіскі з падполля». Прыемным і святочным сталася выступленне беларускіх артыстаў на сцэне торуньскага тэатра «Бай паморскі» — ніводнага вольнага месца не было ў глядзельнай зале. А завяршылася сустрэча апладысментамі і кветкамі.

В. Ш.

## ПРЭМ'ЕРА Ў «БАТЛЕЙЦЫ»

У Мінскім абласным тэатры «Батлейка» (г.Маладзечна) адбылася прэм'ера спектакля паводле п'есы Сяргея Кавалёва «Пілiпка і вядзьмарка». Рэжысёр-пастаноўшчык — Галіна Карбаўнічая. Гэта казка, створаная па традыцыйных народных матывах: барацьба дабра і зла.

Наш кар.

## АРГЕНЦІНСКІ СЕЗОН ДЫРЫЖОРА



У паўднёвым паўшар'і — восень. А восень, як вядома, — пачатак тэатральнага сезона. Тэатр «Калон» у Буэнас-Айрэсе распачаў яго выступленнем аркестра «Філармоніка». Два першыя канцэрты былі прысвечаныя славянскай музыцы. Праграму, складзеную з твораў Дворжака, Чайкоўскага, Шастаковіча, запрасілі падрыхтаваць галоўнага дырыжора Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Аляксандра Анісімава.

Канцэрты прайшлі пры поўным аншлагу. На думку імпрэсарыа Мігеля Леві, «пачатак сезона стаў ашаламляльным адкрыццём натхнёнага, эмацыянальнага дырыжора сусветнага класа. Не выпадкова кіраўніцтва аркестра прысвоіла Анісімаву ганаровы тытул «Галоўны запрошаны дырыжор».

На здымку: аркестрам «Філармоніка» ў тэатры «Калон» дырыжыруе Аляксандр АНІСІМАЎ.

БЕЛІНФАРМ.

РЭПЛІКА

## МЕЛОДЫЯ ДЛЯ ГОЛАСУ Ў СУДЗЕ...

Лідэр адной невялікай партыі з гучнай ліберальнай назвай Уладзімір Жырыноўскі заваяваў усеагульную скандальную вядомасць дзякуючы шматлікім публікацыям пра ягоныя подзвігі ў прэсе (у тым ліку беларускай). Цяпер, каб пра яго і ягоныя «ліберальныя» погляды не забыліся, гэты дзеяч судзіцца, па розных звестках, з двума ці трыма дзесяткамі выданняў і тэлебачаннем з прычыны знявагі ягоных гонару і годнасці журналістамі. Свае гонар і годнасць ён ацэньвае па-рознаму — да мільёна рублёў і больш. Праўда, наколькі вядома, ніводнага судовага працэсу палітычны лідэр пакуль не выйграў. Магчыма, яму і іншым пацярпелым ад «дэмакратычнай прэсы» было б цікава пазнаёміцца, як трэба ставіць на месца крыўдзіцеляў. Дзякаваць Богу, прэцэдэнты ўжо ёсць...

Спеваку з Мінска Уладзіміру Правалінскаму ўдалося абараніць у судзе свае гонар і годнасць ад газеты «Літаратура і мастацтва». Праўда, «працэс стагоддзя» ён выйграў, але ж поўнай маральнай задаволенасці яшчэ не атрымаў. Пра гэта спадар Правалінскі паведаміў з глыбокім шкадаваннем у сваім інтэрв'ю «Народнай газеце» ("Спявак і рэдактар. Сумная песня.") 2 чэрвеня гэтага года.

Вось як У.Правалінскі перадае сутнасць справы: «Оценивая мои «голосовые данные», один молодой критик настолько увлекся, что в полемическом задоре грубо оскорбил мою честь и достоинство. Я попросил его извиниться, но он ударился в амбиции. Что ж, мы люди цивилизованные, есть суд. Он-то и расставил все по местам, вынеся решение о возмещении мне морального ущерба». Паважаны спявак сціпла ўмоўчвае суму «маральнай кампенсацыі», якую суд абавязаў аўтара публікацыі ў «ЛіМе» і саму газету выплаціць істцу (100 тысяч рублёў). Ды гэта, як кажуць, дробязі. Не пра грошы дбае сп.Правалінскі. Папрасіў бы ў яго публічна прабачэння галоўны рэдактар — і справе канец. Уладзімір Правалінскі, як ён сам кажа, газету «ЛіМ» паважае. Але і законнай павагі да сябе патрабуе. І, каб ні ў каго не заставалася сумнення, як можна прымусіць паважаць, на ўсякі выпадак тлумачыць тым, хто яшчэ не ўсё зразумеў: «В органах юстиции мне разъяснили, что за неуважение к суду руководитель газеты может быть подвергнут наказанию в виде административного ареста на 15 суток». Праўда, адразу ж дадае: «Но не могу же я позволить такое...»

Абнадзеіў, так бы мовіць...

Галоўны рэдактар «ЛіМа» з нагоды ўзгаданага інтэрв'ю з горыччу пажартаваў: «Цяпер сяджу і чакаю «чорнага варанка».

Што ж, пачуццё гумару сапраўды дапамагае ў любой сітуацыі. Аднак, калі адкінуць жарты ў бок, застаюцца вельмі сур'ёзныя пытанні. І першае — да «Народнай газеты». Хіба не парадокс, што выданне, якое не аднойчы прынцыпова выступала ў абарону дэмакратычных правоў і свабод, у тым ліку свабоды друку, прадаставіла свае старонкі ці не дзеля запалохвання калег? Справа не ў тым, наколькі адэкватнае судовае пакаранне за словы музычнага крытыка, няхай сабе і сказаныя ў «палемічным запале». Канешне ж, паняцце прававая дзяржава ўключае ў сябе і безумоўную павагу да суда. Аднак ці можна ўявіць сабе прававую дзяржаву, дзе суд і «органы юстыцыі» падмяняюць сабой прафесійную ацэнку крытыкаў вызначаць, скажам, меру таленту або бяздарнасці сваіх грамадзян? Зрэшты, нешта падобнае ў былой нашай імперыі мы ўжо, здаецца, праходзілі, у прыватнасці суды над пісьменнікамі. Застаецца пашкадаваць, што нашы калегі з паважанай газеты «не заўважылі» кепска прыхаванага падтэксту ў выказваннях спадара Правалінскага. Няўжо не прайшла туга па «старым добрым часе», калі журналісты павінны былі ведаць па падказцы з «вярхоў», каго і за што трэба крытыкаваць, а каго чапаць нельга.

І апошняе. Наўрад ці падобная калізія магла б здарыцца, калі б журналісты Беларусі былі ўзброены Законам аб друку РБ, а не законам неіснуючай дзяржавы.

...Цяпер мы сядзім і чакаем.

## ТВОРЧАЯ КУХНЯ

# ШТО ХАВАЕЦЦА ЗА ЎСМЕШКАЙ МІНІСТРА?

*Ці заўважалі вы, што рамантычным героем мастацкага твора ніколі не становіцца і не быў чалавек, які займае міністэрскую пасаду? Прынамсі, я такіх твораў ні ў літаратуры, ні ў кіно, ні ў тэатры не ведаю. Адзінае, што дастаецца на долю міністра — стаць героем журналісцкага даследавання ці дэтэктыва. Крымінальны флёр лунае над міністэрскай пасадай часцей, чымсьці мастацка-псіхалагічны. На маю думку, так адбываецца таму, што ў народнай свядомасці званне чыноўніка не карыстаецца прыязнасцю. Міністр, як чыноўнік найвышэйшага рангу, вымушаны несці цяжар не зусім, я б сказала, аб'ектыўнага стаўлення да сваёй асобы. Але непрыязныя адносіны да чыноўніцтва можна і зразумець. Усе мы ў большай ці меншай ступені залежым ад рашэнняў розных клеркаў. Залежнасць гэта часцей за ўсё яшчэ і падкрэсліваецца апошнімі, а нас — вечных прасіцеляў — толькі раздражняе прыгнечанасць адведзенай нам долі.*

*Разам з тым і ў міністэрскіх крэслах сядзяць людзі. Менавіта таму мне стала цікава трошкі прыадчыніць заслону дзяжурнага афіцыёзу і ўвайсці ў кабінет міністра, каб проста пагутарыць з ім і паспрабаваць зразумець, з якога цеста выпякаюцца нашы чыноўніцкія багі. Самы бліжэйшы шлях журналіста — да свайго патрона. Таму маім суразмоўцам стаў* **Анатоль Іванавіч БУТЭВІЧ** *— міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь.*

*Сустрэча наша адбывалася ў службовым кабінеце, куды спадар Бутэвіч заехаў у перапынку паміж пасяджэннямі сесіі Вярхоўнага Савета. І першае, пра што я даведалася: міністр не паспеў паабедаць...*

**— З чаго пачынаецца Ваш працоўны дзень?**

— Як у звычайнага чалавека: прачынаюся, буджу дзяцей. Разам з жонкай выпраўляем іх на заняткі і самі ідзем на працу.

На рабоце бываю а палове дзевятай. Рыхтуюся, прадумваю, якія справы трэба рабіць на працягу дня, якія вырашаць задачы. З дзевяці гадзін тэмп работы становіцца вельмі напружаны: тэлефонныя званкі, наведнікі, тэрміновыя справы, шмат службовых папер. Таму, каб арыентавацца ў становішчы галіны, вызначыць прыярытэтныя пытанні, патрэбна папярэдняя падрыхтоўка. Часта даводзіцца затрымлівацца дапазна. Увогуле інфармацыйная сфера не адпускае ні раніцай, ні днём, ні вечарам. Слухаю радыё, гляджу тэлевізар, чытаю газеты, а праца ідзе: робіцца аналіз, высновы на будучае, бярэцца пад увагу нейкі новы вопыт.

**— Значыць, за дзвярыма службовага кабінета міністр інфармацыі таксама спачыну не мае?**

— Даволі цяжка абстрагавацца. Інфармацыйная плынь ніколі не спыняецца, і Вы самі разумееце, што я не маю права проста плысці за падзеямі. Як кіраўнік міністэрства, разам з калегіяй павінен пэўным чынам рэгуляваць працэс.

**— А якія асноўныя прынцыпы работы міністэрства інфармацыі?**

— Калі я прыйшоў сюды, то вызначыў для сваёй структуры як мінімум два напрамкі: першы заключаецца ў тым, каб імкнуцца быць патрэбным галіне; не чакаць, пакуль ад нас нешта запатрабуюць, а шукаць самім у розных напрамках удасканальванне сваёй дзейнасці. Другі бок праблем складаецца з трох частак: аналіз сітуацыі, прагноз яе далейшага развіцця і арганізацыя выканання.

**— А як Вы ставіцеся да сваіх падначаленых: як да калег ці толькі як да выканаўцаў сваіх распараджэнняў? І ці вялікі апарат самога міністэрства?**

— У нашым апараце павінна быць 75 чалавек. Але, на жаль, не ўсе вакансіі занятыя. Людзі не зусім ахвотна ідуць сюды працаваць — зарплата невялікая. А мы імкнемся браць добрых спецыялістаў, якія б маглі нароўні працаваць з усёй нашай сферай. Адсюль і маё стаўленне да падначаленых. Як правіла, кожны з іх «дока» ў сваёй справе, якую ён ведае можа лепш за мяне. Таму ўсе мы — калегі, партнёры. Мне даспадобы той, хто мае цікавыя прапановы, можа абгрунтавана аспрэчыць нейкія мае рашэнні. Разам з тым службовая дысцыпліна, безумоўна, — стрыжань пасняховай і плённай працы.

**— Я так разумею, што дыктат міністэрству інфармацыі не пагражае?**

— З майго боку — не.

**— А ці часта падначаленыя бачаць усмешку на Вашым твары?**

— Па-рознаму бывае. Дзень на дзень не прыпадае. Усмешкамі справу не зробіш...

**— Але можна паспрыяць...**

— Канешне. Таму я не баюся ўсміхацца і з задавальненнем раблю гэта, асабліва калі гаворка ідзе пра сур'ёзную справу.

**— Ці можна расчуліць міністра Бутэвіча?**

— Гледзячы чым і хто. Увогуле я — чалавек эмацыянальны і чалавечыя пачуцці мне зразумелыя.

**— Як Вы лічыце: быць міністрам гэта — прызванне?**

— Не. Мне здаецца, прызванне тычыцца толькі сапраўдных творцаў: мастакоў, літаратараў, журналістаў...

**— Хіба кожны можа стаць міністрам?**

— Канешне, не. Толькі я лічу, што гаворка тут не столькі пра прызванне, колькі пра адпаведныя здольнасці. Мусіць, галоўнае для кіраўніка — арганізатарскі талент.

**— Але ж да пасады міністра адразу не скокнеш. Трэба ісці паступова з прыступкі да прыступкі. Якія былі яны ў Вас?**

— Нарадзіўся я на хутары. Калі прыехаў у Мінск паступаць у інстытут, нікога ў мяне тут не было. Усяго даводзілася дабівацца самому.

**— Тым не менш лідэрскія якасці Вашага характару недзе павінны былі праявіцца?**

— Не ведаю... Не ведаю... Але ў школе быў старастам, на філфаку універсітэта — старастам групы і курса, намеснікам камсорга факультэта. Калі лічыць гэта прыступкамі, то, сапраўды, біяграфія мая складвалася па нейкай вертыкалі. І ўсё ж пачаткам кар'еры, я думаю, можна назваць пасаду намесніка галоўнага рэдактара газеты «Чырвоная змена», бо да таго працаваў карэспандэнтам БелТА. Пасля газеты — камсамольская і партыйная работа, узаемастасункі з Саюзам пісьменнікаў. Затым — дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура», старшыня Камітэта па друку, і, нарэшце, міністэрства. З усяго службовага спісу найбольш дарагая — работа ў «Чырвонцы» і ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Гэта былі светлыя часы, калі я мог нешта рабіць і адразу бачыць плён сваёй працы. На міністэрскай пасадзе, на жаль, такое не часта здараецца.

**— І ўсё ж, я думаю, Вам гэта праца падабаецца. Цікава, чым яна вабіць Вас, бо пачуўшы пра клопаты міністра, можна падумаць, што захапляцца высокай пасадай не надта выпадае?**

— У мяне на гэтым месцы вялікая магчымасць стасункаў з людзьмі. І клопаты клопатам — розніца. Дзяржаўныя інтарэсы пашыраюць абсягі і тваёй дзейнасці, з'яўляюцца большыя магчымасці рэалізаваць свае задумы, планы. Працаваць вельмі цікава. Тым больш, кантакты нашыя набываюць міжнародную перспектыву. Мы імкнемся ўвайсці ў сусветную інфармацыйную прастору як незалежная еўрапейская краіна. Нашы выдавецтвы, друкарні працуюць даволі стала, наколькі дазваляюць сённяшнія абставіны. Не разбурылася ніводная структура, мы захавалі спецыялістаў, а гэта нялёгка па сённяшнім часе. Хацелася, каб і нашыя стасункі з прэсай насілі характар узаемнай павагі. Каб прэса была добрым дарадцам і кіраўнічых структур, і палітычных партый, і, галоўнае, — чытача.

**— Чаго Вам не хапае на Вашай пасадзе?**

— Часу. Вельмі шмат задумак, ідэй, а часу не стае.

**— Як у кожнага, і ў Вас, напэўна, бываюць такія моманты, калі працуеш на мяжы сваіх магчымасцяў. Дзе Вы чэрпаеце новую энергію, падсілкоўваецеся станоўчымі эмоцыямі?**

— Самыя прыемныя хвіліны я праводжу з дзецьмі. У мяне іх трое. Старэйшы сын, студэнт гістарычнага факультэта, дачка, якая вучыцца ў тэхнікуме,і малодшая — трэцякласніца. Вось яны і даюць надзею на тое, што лепшае заўсёды надыходзіць, трэба толькі да яго імкнуцца. Для іх, дзяцей нашых, мы і працуем.

**— А ці раіцеся Вы з жонкай наконт вырашэння нейкіх службовых праблем?**

— Ніколі. Мае службовыя праблемы — мой клопат. Дома хочацца больш даведацца аб праблемах дзяцей, адкрыць для сябе нешта новае ў іх жыцці, інтарэсах.

**— Міністэрская пасада ва ўяўленні многіх мае шмат прывабнага з пункту гледжання так званых прывілей. Ці сапраўды быт міністра цудоўна ўладкаваны?**

— Справа ў тым, што прывілеі — з'ява больш міфічная, чым рэальная. Прынамсі, я жыву і маю тое ж, што і ўсе. Кватэра —чатырохпакаёвая, мэбля — звычайная, нічога асаблівага няма і ў аздабленні кватэры. Дачу будую сам. Дарэчы, аднапавярховую. Ежу ў асноўным «пастаўляе» маці, якая жыве ў Нясвіжскім раёне, і цешча — яна жыве ў Мядзельскім. Паслугамі атэлье не карыстаюся. Лекамі не злоўжываю. Так што сакрэтаў ніякіх у нашым быце няма. Ён такі ж неўладкаваны, як і ў астатніх.

**— Застаецца яшчэ даведацца пра тое, якія міністр Бутэвіч мае захапленні, акрамя сваёй адказнай працы? Ці работа нават на гэта не пакідае сіл?**

— У мяне ёсць два захапленні: пераклады і тэатр. Перакладаць пачаў яшчэ ў «Чырвонай змене»: гумарэскі з польскай мовы. Пасля былі публікацыі перакладаў мастацкіх твораў з польскіх, украінскіх, рускіх і іншых выданняў. Нядаўна ў выдавецтве «Юнацтва» з'явіўся зборнік апавяданняў беларускіх і украінскіх пісьменнікаў пра вайну, дзе шмат маіх перакладаў. «Мастацкая літаратура» выпусціла «Прыгоды пілота Піркса» С.Лема і зборнік Шалом-Алейхема з маім перакладам «Тэўе-малочніка». Перакладчыцкая праца надае той творчы імпульс, які дапамагае цікавей успрымаць і чыноўніцкую руціну.

А тэатр... Я даўні прыхільнік Купалаўскага, Рускага і опернага тэатраў. Раней хадзіў на спектакль 3 — 4 разы. Цяпер часу хапае толькі на тое, каб пабываць на прэм'ерах. Дарэчы, перакладаў я і для тэатра. П'есы ішлі ў Тэатры юнага гледача.

**— Вы спалучаеце ў сабе дзве такія розныя іпастасі: творца і чыноўнік вышэйшага рангу. Ці не замінаюць яны адна адной?**

— Хутчэй узаемадапаўняюць. Некалі, падчас маёй працы ў ЦК КПБ, я меў магчымасць вельмі цесна супрацоўнічаць з Саюзам пісьменнікаў. Беларускія пісьменнікі шмат далі мне ў разуменні творчага чалавека. Я багата чаму навучыўся ад іх. А веданне асаблівасцяў працы творцы дапамагае чыноўніку разглядаць свае абавязкі больш шырока і знаходзіць новыя падыходы і перспектывы сферы дзейнасці.

**— Ці ёсць у Вас ворагі і як Вы да іх ставіцеся?**

— Не ведаю. Але, здаецца, нядобразычліўцаў хапае. Стараюся не звяртаць на іхнія інтрыгі ўвагі. Мой прынцып заўсёды быў такі: калі можаш зрабіць чалавеку нешта добрае, нават ведаючы, што ён вінаваты перад табой, зрабі. Так што ў жыцці і на рабоце я кіруюся толькі на дабро...

*Я пакідаю напрыканцы шматкроп'е. Многае засталося за межамі нашай кароткай гаворкі. Але пачутага дастаткова, каб ведаць, што за дзвярыма міністэрскага кабінета можна сустрэць цікавага чалавека з разнастайнымі інтарэсамі і прыемнага суразмоўцу. Я кажу традыцыйнае: «Дзякуй за гаворку», і спадар міністр ветліва і шчыра ўсміхаецца ў адказ.*

**Вольга ШЧАДРЫНА.**









● Падчас гутаркі Анатоль Іванавіч пажартаваў — маўляў, надта многа плёнкі скарыстоўвае на яго фотакарэспандэнт. Трэба скараціць «Культуры» ліміты...

Жарты жартамі, але перад намі была задача: даць як мага больш поўны партрэт чалавека, які стаіць на чале «чацвёртай улады» ў рэспубліцы. І вырашылі, што пэўныя штрыхі да партрэта суразмоўцы дадаюць гэтыя фотакадры. А што хаваецца за ўсмешкай міністра, не так важна. Галоўнае, каб ён усміхаўся часцей.





**Вялікае свята беларускай песні і паэзіі ў гасцінным Маладзечне доўжылася тры дні. Сабрала яно лепшых спевакоў, кампазітараў, музыкантаў, паэтаў. Ідэя правесці менавіта нацыянальны музычны фэст выспявала даўно. Ажыццявілася яна дзякуючы намаганням трох энтузіястаў — дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі, мэра Маладзечна Генадзя Карпенкі, мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусі Міхаіла Фінберга і галоўнага рэдактара творчага аб'яднання музычных і забаўляльных праграм Дзяржтэлерадыёкампаніі РБ Бахціяра Бахціярава. Упершыню ў дзяржавы не было ўзята ні капейкі: сто мільёнаў рублёў на правядзенне свята далі спонсары. Пераможцу конкурса маладых выканаўцаў, а ёю стала салістка канцэртнага аркестра Алена Саўленайтэ, чакаў каштоўны прыз — аўтамабіль «Жыгулі».**

**Увогуле горад да свята такога маштабу падрыхтаваўся выдатна, гасцей маладзечанцы сустрэлі ветліва і сардэчна.**

**Міхаіл ФІНБЕРГ, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі:**

— Гэта першы нацыяльны фэст беларускай музыкі і паэзіі, у якім мелі магчымасць удзельнічаць усе папулярныя і менш вядомыя выканаўцы. Мы ўбачылі і нашыя дасягненні, і недапрацоўкі. Зараз трэба думаць пра новыя песні з новымі інтанацыямі. Мы здольныя рухацца наперад, таму што ў нас расце новая творчая змена таленавітых кампазітараў і паэтаў. Сённяшняя беларуская песня пайшла па меладычнай лініі, рытмічнай аснове, гарманічным накірунку. Яна сапраўды прыняла статус еўрапейскай. Важна і тое, што фэст папулярызаваў мілагучнасць матчынай мовы праз песню.

**— Ці згодныя Вы з ацэнкамі журы?**

— Журы працавала аб'ектыўна, карэктна і вельмі прафесійна. І я ўдзячны яго старшыні Віктару Вуячычу.

**— Вашае ўспрыняцце маладзечанскай публікі?**

— Яна мне вельмі спадабалася. Больш за тое, быў вельмі здзіўлены падчас начнога канцэрта джазавай музыкі. Пасля папярэдняга гала-канцэрта амаль ніхто не пакінуў стадыён! Усе слухалі і галоўнае — разумелі гэтую музыку! Дарэмна мы недаацэньваем невялічкія гарады...

**— Якое значэнне мае фэст для нашай культуры?**

— На мой погляд, каласальнае. Таму, што мы даказалі: існуе нашая нацыянальная песня, нашая нацыянальная паэзія. У мастацтва прыйшло разам са старэйшымі творцамі Танкам, Барадуліным, Гілевічам і новае пакаленне — Пранчак, Дранько-Майсюк, Бадак, Мазго. Апроч таго, мы выхавалі шмат талентаў у аркестры, і ўладальніца Гран-Пры і пераходнага прыза фэсту — залатой галінкі папараці Алена Саўленайтэ гэта пацвярджае. Толькі трэба больш шанаваць нашых «зорак», падтрымліваць іх, а таксама садзейнічаць развіццю прафесійнага менеджменту. Будуць «зоркі», уласныя менеджэры — будзе ў беларускай песні сусветная вядомасць.

**— Якая будучыня ў фэсту?**

— Плануецца праводзіць яго раз на два гады. Можа, у далейшым гэта будзе фэст беларускай поп-музыкі...

**Юрась БАГАТКЕВІЧ, кампазітар і спявак, кіраўнік ансамбля «Раства»:**

— Нарэшце і ў нас з'явіліся такія святы, што нясуць цёплую, сяброўскую атмасферу, у якой добра і прыемна працуецца. Такі фэст проста неабходны для развіцця нашай культуры. Кампазітару і выканаўцу ён дае магчымасць пазнаёміцца з творчасцю іншых, паглядзець на ўласную працу звонку. Гэта сапраўдны стымул.

**— У якім напрамку Вы працуеце?**

— Імкнуся ствараць беларускую песню ў стылі поп. Упэўніўся, пабываўшы нядаўна ў Германіі, што наша музыка не горшая за іншую. Публіка там рэагуе на беларускія песні таксама, як і наша — тыя ж эмоцыі і пачуцці. У хуткім часе будзем удзельнічаць у канцэрце з «зоркамі» свету — Родам Сцюартам, Цінай Цёрнер і іншымі, восенню — прадстаўляць беларускую песню на фэсце ў Лёнебурзе.

**— Ці спадабалася Вам у выкананні 17-гадовай дыпламанткі конкурсу з Віцебска Аксаны Пятровай Ваша песня «Зорная ноч»?**

— Так, спадабалася. На маю думку, Аксана мае добрыя здольнасці, яе чакае вялікая будучыня. Яна спявае не толькі голасам, але і душою. А гэта вельмі важна для выканаўцы.

**Генадзь КАРПЕНКА, старшыня Маладзечанскага гарвыканкама:**

— Вельмі хацелася, каб людзі атрымалі прыгожае свята. Мы імкнуліся паказаць, што не ўсё ў нашым жыцці так дрэнна, што не трэба губляць веру ў лепшае. Ведаеце, мяне ўразіла тое, што менавіта беларуская песня, а не замежная, здольная падымаць на ногі публіку ў прамым сэнсе слова. Шчыра кажучы, пад заканчэнне фэсту я больш сачыў за яе рэакцыяй: прыемна было бачыць шчаслівыя і адухоўленыя твары. Мы спецыяльна арганізавалі для маладзечанцаў да 18 гадоў і ветэранаў бясплатны ўваход. Для астатніх білеты каштавалі 250 рублёў. Са ста тысяч жыхароў на стадыёне, дзе праводзілася свята, пабываў кожны пяты. Лічба ўражвае!

Мы хваляваліся, каб чаго не здарылася. Але — ніводнага сарванага сцяга, ніводнай пабітай вітрыны. У гэтым я бачу сімвал Адраджэння... Маладзечанская зямля мае глыбокія культурныя традыцыі: праз яе прайшлі шляхі Міхала Агінскага, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, яна дала многа талентаў — кампазітараў Антонава, Іванова, Елісеенкава і іншых. Нам ёсць чым ганарыцца. Так, мы зрабілі ў горадзе многа — заасфальтавалі дарогі, адкрылі новыя крамы, кавярні, у тым ліку начныя, адрамантавалі дамы, але самае галоўнае — падаравалі людзям свята.

**Валерый ДАЙНЭКА, спявак, член журы:**

— Фестываль беларускай песні не спазніўся. Пачатак яго «вымалёўваўся» ўжо на віцебскім фэсце. Атрымаўся такі своеасаблівы пераход ад польскай песні да «Славянскага базару», і вось, нарэшце, мы прыйшлі да беларускай сучаснай музыкі. Спадзяюся, у далейшым госці з іншых краін будуць спяваць на мове гаспадароў, як гэта робіцца паўсюль.

Пачатак пакладзены. Далей трэба будаваць добрую пляцоўку. Не сумняваюся, што яна будзе не горшай, а, можа, і лепшай за віцебскую. Бо калі знайшліся спонсары, што арганізавалі фэст, знойдуцца разумныя людзі, якія не будуць выкідваць грошы на ўсялякія забаўкі, а пабудуюць у маладзечанскім парку сучасны летні амфітэатр...

**Павел ЯКУБОВІЧ, карэспандэнт «Народнай газеты», член журы:**

— Мяркую, тыя, хто паставіўся да фэсту з некаторым недаверам, зрабілі памылку. Перш за ўсё «Песняры», якія былі сюды запрошаны, але не прыехалі. Маладзечна — якраз тое месца, дзе можна было размаўляць прафесіяналам і публіцы на дастаткова высокім узроўні. Фэст паказаў, што ў дадзены момант кампазітары працуюць больш кваліфікавана за паэтаў. Адзіны недахоп, што гэта адбывалася ў адрыве ад кантэксту ўсяго культурнага жыцця рэспублікі. Актыўней павінны працаваць турыстычныя бюро, наладжвацца зносіны са сталіцай. Спадзяюся, з цягам часу ў Маладзечне ўсё гэта будзе: і замежныя гледачы, і новыя чатырох-пяцізоркавыя гатэлі... Мы сёння ўбачылі заўтрашні дзень эстрады, па якім шляху яна пойдзе, усе яе вартасці і хібы. Каштоўным з'яўляюцца актыўная і дастаткова разнапланавая праца кампазітараў, арыентацыя на беларускае слова. Хачу зазначыць, што Віцебск зараз ладзіць па сутнасці камерцыйнае мерапрыемства, дзе нічога ўжо не засталося ад сапраўднага фестывалю. А паколькі гэта ўсё яшчэ звязана з «Астанкіна», то гэта — рэклама, выхад на тэлебачанне СНД, яшчэ адна магчымасць прадэманстраваць сябе «зоркам», яшчэ раз бліснуць, так бы мовіць. Тут жа абсалютна няма нічога, што мае дачыненне да духоўнага ўздыму. Звычайны гала-канцэрт, які можна правесці ў Мінску ці яшчэ дзе-небудзь.

Яшчэ адна асаблівасць фэсту: спевакі не выканалі ніводнай песні Ігара Лучанка. Пра што сведчыць гэты факт? Ва ўсялякім разе не пра тое, што кампазітар кепска працуе. Усё прасцей. Калісьці спявалі Дунаеўскага, зараз — не співаюць. Мне здаецца, Лучанку трэба асэнсаваць рэчаіснасць і ісці далей. З гэтай праблемы, з другога боку, узнікае вартасць — на фэсце панавала дэмакратыя: самі выканаўцы вырашалі, што ім спяваць. І гэта цудоўна!

**Алена САЎЛЕНАЙТЭ, уладальніца Гран-Пры, салістка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі:**

— Нарадзілася і вырасла ў Літве, скончыла Гродзенскае музычнае вучылішча і па размеркаванні, а таксама запрашэнні Міхаіла Фінберга апынулася ў Дзяржаркестры. Амаль шэсць гадоў працую ў ім. Мне вельмі падабаецца тое, чым я займаюся. Здаецца, зараз я станаўлюся на самую першую прыступку, з якой пачынаецца мая творчая кар'ера. Ужо паступаюць дзелавыя прапановы, і я гэтаму вельмі рада. Галоўнае ж, я сцвердзілася ва ўласных вачах: я штосьці магу, мяне ўбачылі і прызналі гледачы ў нейкай новай якасці.

Наталля КІРПІЧЭНКАВА.
Фота Генадзя ЖЫНКОВА.



# «ВЯРНУЦЦА ДА ВЫТОКАЎ ДАБРЫНІ»

*«Фальклор як сродак выхавання нацыянальнай свядомасці», —такі назоў мела Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя, што 3 — 4 чэрвеня ладзілася ў Мінску. Заснавальнікамі канферэнцыі былі Асацыяцыя фальклярыстаў Беларусі і тры міністэрствы: культуры, адукацыі, інфармацыі. Надзвычай шырокі і прадстаўнічы быў шэраг удзельнікаў: вядучыя навукоўцы, практыкі, кіраўнікі народных калектываў, выхавальнікі дзіцячых устаноў, начальнікі райаддзелаў культуры... Абмяркоўваліся пытанні, якія тычацца самых розных бакоў існавання і развіцця фальклору — ад вечнага «Фальклор і фармаванне менталітэту беларусаў» да амаль будзённага «Інтэрпрэтацыя фальклору ў сродках масавай інфармацыі».*

*Праца працягвалася ў секцыях «Фальклор і вёска», «Фальклор як сродак выхавання дзяцей», «Фальклор у сродках масавай інфармацыі», «Маладзёжны фальклярыстычны рух». Заключнае пасяджэнне прыняло рэкамендыцыі, якія маюць легчы ў аснову дзяржаўнай праграмы развіцця і падтрымкі фальклору.*

*У перапынку наш карэспандэнт звярнуўся да прадстаўнікоў, так бы мовіць, розных утваральнікаў гэтай сустрэчы з адным пытаннем: «Чым адметная сённяшняя канферэнцыя, якія праблемы яна ў стане вырашыць?» Нам адказвалі:*

**Уладзімір ГІЛЕП, першы намеснік міністра культуры:**

— Упершыню ладзіцца мерапрыемства, на чале якога стаялі б такія сілы: тры міністэрствы! І мне здаецца гэта сімптаматычным, бо толькі аб'яднанне ўсіх, чые намаганні тычацца фальклору, у стане прывесці да пэўных вынікаў. Я спадзяюся, што канферэнцыя пакіне след, а таму ўсе матэрыялы яе павінны быць выдадзены асобнаю кнігай. І, самае галоўнае, я спадзяюся, што нам удасца, ну, канешне, не праз адно гэта мерапрыемства, а праз вялікія намаганні, зноў жа, усіх разам, утрымаць, захаваць фальклорныя калектывы, якія, на вялікі жаль, пачалі знікаць... Трынаццаць гадоў праіснаваў калектыў з Палесся пад кіраўніцтвам Міхася Макарцова! А сёння ён развальваецца з-за фінансавых прычын. А гэта ж унікальны ансамбль, асабліва для Гомельшчыны, дзе такіх калектываў мала! Не будзем забывацца, што ён прадстаўляе той рэгіён, на які могуць і спакушацца, матывуючы гэта тым, што там, маўляў, жывуць не беларусы. Сёння галоўнае, паўтаруся — захаваць. Захаваць тое, што назапасілі.

**Тадэвуш СТРУЖЭЦКІ, начальнік Аддзела ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры РБ:**

— Гэту канферэнцыю трэба разглядаць у комплексе мерапрыемстваў, якія праводзіць Міністэрства культуры разам са сваімі падведамствамі, грамадскімі аб'яднаннямі. Курс, узяты на нацыянальнае адраджэнне, на развіццё нацыянальнай культуры, можа быць рэалізаваны толькі ў канкрэтных справах. Канферэнцыя —магчымасць яшчэ раз прыцягнуць увагу да шматлікіх праблемаў, і не толькі шырокіх, такіх, як укараненне фальклору, а і больш вузкіх, што ўзнікаюць, напрыклад, у сферы народнай творчасці. А калі казаць пра комплекс мер, то зусім нядаўна ў Віцебску праводзіліся навукова-практычная канферэнцыя і выстава, прысвечаныя творчасці Язэпа Драздовіча, тыдзень таму ў Стоўбцах ладзіўся рэгіянальны традыцыйны фестываль дзіцячых талентаў «Сымон-музыка», у чэрвені ў Паставах адбудзецца вялікі штогадовы фестываль народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік». Можна сказаць, што выкрышталізавалася пэўная сістэма правядзення аглядаў, фестываляў, святаў, скіраваная перш за ўсё на падтрымку і арганізацыю творчай дзейнасці самадзейных калектываў на месцах. Але мы, канешне ж, сёння ставім і больш перспектыўныя мэты, спадзяёмся, што на канферэнцыі будуць выказаны цікавыя прапановы, якія дапамогуць у распрацоўцы праграмы дзяржаўнай падтрымкі развіцця нацыянальнай культуры, якая мае ўвабраць у сябе праблемы фальклору, праблемы народных рамёстваў, промыслаў. Думаю, што прыняцце такой праграмы дазволіць якасна вырашаць пытанні на самых розных узроўнях.

**Анатоль БУТЭВІЧ, міністр інфармацыі:**

— Я ніколі не адлучаў сферу інфармацыі, кнігавыдання, тэлебачання, радыё ад культуры наогул. І тое, што рабілі сродкі інфармацыі і кнігавыдання у рэшце рэшт дапамагло захаваць фальклор. Яшчэ ў нядаўні час рознымі «апрацоўкамі» сапраўдныя залацінкі заглушаліся і губляліся, але, тым не менш, фальклор назапашваўся ў кнігах. Шматтомная БНТ , асобныя выданні, у тым ліку энцыклапедычныя, найперш — «Этнаграфія Беларусі»... Каб не існавалі гэтыя скарбы, сёння было б намнога цяжэй збіраць фальклор. Цяперашняя канферэнцыя, па-мойму, павінна дапамагчы ачысціць сапраўднае ад наноснага, а галоўнае — аб'яднаць тых, хто працуе ў гэтым накірунку: навукоўцаў, практычных работнікаў, выдаўцоў. Неабходна скарэктаваць, так бы мовіць, «на хаду» нашы планы, пазіцыі дзеля выхавання нацыі, бо менавіта ў фальклоры — неацэнны гуманістычны патэнцыял, які можа супрацьстаяць тым камерцыйным выданням, якімі сёння завалены крамныя паліцы. Выданне фальклору — справа, непасрэдна скіраваная на адраджэнне нашай дзяржавы.

**Георгій БУТРЫМ, намеснік міністра адукацыі:**

— Наспеў час вярнуцца да вытокаў дабрыні, да творчасці народа. Ужо распрацоўваюцца новыя школьныя праграмы, дзе фальклор зойме пачэснае месца і, спадзяюся, дапаможа ў фармаванні чалавека, якому будуць уласцівыя найлепшыя якасці: дабрыня, пяшчота, любоў да працы, годнасць, наша спрадвеку міралюбнае стаўленне да навакольнага свету. Канферэнцыя, думаю, паспрыяе распрацоўцы новай праграмы па літаратуры. Вывучэнне фальклору, розных жанраў і відаў народнага мастацтва ўвойдзе практычна ва ўсе дысцыпліны эстэтычнага цыкла.

**Васіль ЛІЦВІНКА, прэзідэнт Асацыяцыі фальклярыстаў Беларусі:**

— Самае важнае — нарэшце стала адчувацца ўвага ўрада да праблем фальклору. Сёння тут сабраліся ўсе, каму неабыякавая культурная самабытнасць народа. На маю думку, вельмі разумна складзена праграма канферэнцыі. Глядзіце, якія пытанні: «Фальклор як сродак выхавання дзяцей», «Маладзёжны фальклярыстычны дух» і «Фальклор і вёска» — гэта значыць, бытаванне фальклору ў натуральных умовах. Балюча, што ў наш час месца звыклай «ідэалогіі» запаўняецца штучнымі формамі фальклору. Я — за аўтэнтыку і разумную інтэрпрэтацыю, за захаванне народнай самабытнасці.

**Галіна БУЛЫКА.**

## НЕВЫЧЭРПНАЯ КРЫНІЦА

Скончылася выступленне, і ўдзельнікі канцэрта вырашылі сфатаграфавацца, каб надоўга запомнілася яркае свята, якое кожны год збірае ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці Віцебска.

Тут сустракаюцца непрафесіяналы. Але, слухаючы іх выступленні, адзначаеш, што крыніца беларускіх талентаў невычэрпная, — так прыгожа і непаўторна гучаць галасы рабочых, урачоў, настаўнікаў...

Ужо не першы год існуе ў Рубаўскай сярэдняй школе, што пад Віцебскам, калектыў мастацкай самадзейнасці. Як чысты ручаёк гучыць тут беларуская мова.

Гэты калектыў займае вядучае месца сярод іншых удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Неаднаразова пастаноўка «Беларускія заручыны» і іншыя самадзейныя спектаклі радавалі гледачоў горада і Віцебскага раёна сваёй прыгажосцю, шчырасцю і весялосцю.

... Калі працягваюць адраджацца старыя народныя песні і танцы, калі, нягледзячы на ўсе цяжкасці жыцця, пяюць і не сумуюць людзі — значыць, у гэтага народа ёсць будучыня!

**Вячаслаў БЕЛАВУС,**
**настаўнік гісторыі і грамадазнаўства.**

в.Руба, Віцебская вобласць.

**Фота аўтара.**



## ГАСЦЁЎНЯ ДВУХ АЛЕГАЎ



Міжнародны дзень музеяў сёлета адзначаўся пад дэвізам: «Музей — важны сродак узбагачэння культуры народа, культурных сувязяў, узаемаразумення, супрацоўніцтва і міру паміж народамі». Ужо стала добрай традыцыяй гэтае свята адзначаць у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Ідуць да паэта ўдзячныя нашчадкі, бо яго творчасць заўсёды хвалюе. Вершы паэта мудрыя і філасофскія, простыя і напеўныя. Шануюць і зберагаюць памяць пра Янку Купалу людзі, бо яго высакароднае майстэрства кранае сваёй праўдзівасцю, шчырасцю, пранікнёнасцю.

На свята ў музей прыйшлі вядомыя таленты нашай Беларусі —паэт Алег Лойка і паэт-бард Алег Атаманаў. У іх выкананні прагучала літаратурна-музычная кампазіцыя «Гасцёўня двух Алегаў», якая аб'яднала і адлюстравала эстэтычныя прынцыпы і каштоўнасці духоўнага жыцця нашага народа. Вершы і песні Алега Лойкі і Алега Атаманава — гэта цудоўны свет паэзіі і музыкі, бо ўсё ў іх ад роднага, знаёмага нам з дзяцінства. Аўдыторыя — а гэта студэнты філалагічнага факультэта Дзяржаўнага універсітэта і супрацоўнікі музея — змагла пачуць пра гістарычныя, гераічныя і драматычныя старонкі жыцця беларускага народа, пра асабістыя ўражанні і перажыванні выканаўцаў у нашу супярэчлівую рэчаіснасць. Непаўторны талент і арыгінальнасць твораў Алега Лойкі і Алега Атаманава — яркая старонка беларускай сучаснай культуры.

Мелодыі танга, асабліва «Беларускае танга», за кароткі час свайго існавання сталі настолькі папулярнымі і вядомымі, што перайшлі ў разрад народных. А як хораша было слухаць, калі песню «Зялёны гай» спявала ўся зала.

На заканчэнне хочацца нагадаць словы Алега Лойкі, якія многа зрабіў для вывучэння і прапаганды творчасці першага народнага паэта Беларусі: «Янка Купала — наша будучыня». Гэтая сустрэча ў музеі пакінула аб сабе цёплы ўспамін.

**Л.ДАВІДОЎСКАЯ,**
старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

I wish my Belorussian people to reach real freedom and to return to real slavian soul.
We Belorussians abroad are ready to return to our first point...

Nicolas Radziwill Tomaszewski

*«Я жадаю беларускаму народу прыйсці да сапраўднай свабоды і вярнуцца да сапраўднае славянскае духоўнасці. Мы, беларусы ўсяго свету, гатовы пачаць усё спачатку.»*

*Мікалай* РАДЗІВІЛ-ТАМАШЭЎСКІ.

# ДЫЯЛОГ, ЯКІ ЧАКАЕ ПРАЦЯГУ

Мы сядзім у рэдакцыі «Культуры», частуем госця кавай. Мікалай Тамашэўскі зацікавіўся каляровым календаром «Магнаты Беларусі», выдадзеным на пачатку года, і просіць дапамагчы яму набыць слайды з выявамі Радзівілаў. З нязмушанай гутаркі мы даведаліся, што нарадзіўся ён у Лісабоне, што яму крыху за сорак, што вучыўся ў Францыі і Швейцарыі, займаўся бізнесам па продажы і ацэнцы кампаній. Бацька яго — Ян Дарнэлас-Тамашэўскі — быў спецыяльным пасланцом польскага ўрада ў Лісабоне. Цяпер бацькі жывуць у Лондане; маці Эльжбеце — уроджанай Радзівіл — 75 гадоў, бацьку — 90. Але яны поўныя імпэту і нават збіраюцца прыехаць на Беларусь. У Францыі жывуць брат Мікалая — Ежы і сястра Крысціна. Старэйшы брат Альберт жыве ў ЗША ў Анапалісе і займаецца выпрабаваннем сродкаў для выратавання людзей у паветры і на вадзе.

Мікалай шчыра гаворыць: «Я вельмі рады сустрэчы з радзімай маіх продкаў, багатай духоўнай спадчынай. Нясвіжскі ансамбль, нягледзячы на тое што не мае былога бляску, нібы адрадзіў карціны далёкай гістарычнай мінуўшчыны, дзе перакрыжаваліся лёсы каралеў, мастакоў і простых людзей. Вось толькі хвалюе пытанне: ці змагу афіцыйна замацаваць правы на спадчыну, якімі я валодаю па рашэнні крэўных? Тады можна будзе гаварыць аб інвестыцыях і перспектывах рэканструкцыі гэтага унікальнага помніка... Я захоплены прыродай Беларусі, яе людзьмі, якія спакойна працуюць, а ў вас жа столькі праблем! Але, нягледзячы на гэта, думаю пераехаць сюды жыць, прывезці сваю сям'ю...»

Мы, шчыра кажучы, здзівіліся: няўжо Мікалая не палохаюць нашыя эканамічныя цяжкасці, тыя акалічнасці побыту, якія еўрапейцу могуць падацца нават бязглуздымі, недарэчнымі?

— Калі б я ехаў пазней, у час, прынамсі, эканамічнага ўзлёту Беларусі і яна была б такой жа заможнай, як Францыя і Амерыка, мне, як бізнесмену, наўрад ці было б так цікава. Цяпер жа я магу краіне, якая адраджаецца, чымсьці дапамагчы практычна. Дарэчы, не такая ў вас ужо і катастрофа ў эканоміцы. Проста колькі ўжо год людзі кепска працуюць, развучыліся, вось і ўсё. Гэта — мая думка. Упэўнены, што маім дзецям — Аляксандру, Дэльфіне і Ксаверыю ў вас спадабаецца. Вядома, без цяжкасцяў не абыдзецца. Але той бяды, калі не сходзяць паснедаць у Макдональд, не паслухаюць новы лазерны дыск... Праўда, трэба будзе прывыкаць да новых сяброў, мовы, культуры, звычаяў. І ўсё ж, калі яны пабачаць чароўную Нарач (хачу адпачыць разам з сям'ёй у гэтых маляўнічых мясцінах), сэрцам зразумеюць гэтую зямлю... Чаго я жадаю сваёй гістарычнай радзіме? Перш за ўсё таго, каб у гэтай новай краіне была адроджана справядлівасць і, не буду ўтойваць, хачу, каб уласнасць Радзівілаў належала яе гаспадарам. Думаю, трэба вяртацца да адвечных каштоўнасцяў — цаніць і паважаць чалавека з яго правамі. І тут многае залежыць ад пазіцыі ўладаў Рэспублікі Беларусь — пазіцыі цывілізаванай, прынцыповай. У маіх дзяцей, скажам, павінны быць гарантыі, што іх не выштурхнуць з краіны, як гэта адбылося з маімі продкамі некалькі дзесяцігоддзяў назад. Шмат беларусаў, у тым ліку і з прозвішчам Радзівіл, раскіданы па ўсім свеце. І калі ім прапаноўваюць супрацоўнічаць з Беларуссю, у іх, натуральна, паўстае пытанне аб уласнасці. Яны не павінны быць якімісьці бязроднымі «донарамі», яны хочуць адчуваць сябе часткай нацыі. Так, сапраўдная дэмакратыя неабходная беларускай нацыі, патрэбныя дэмакратычныя правы і свабоды, замацаваныя законамі. І калі б у рэспубліцы быў прыняты закон аб прыватнай уласнасці, які адпавядаў бы сусветным стандартам, сюды паехалі б людзі, укладалі б свае грошы ў эканоміку, працавалі б на карысць дзяржавы...

Наш госць не пакрыўдзіўся на нашу, мо і не надта карэктную рэпліку: словы — словамі, а справы — справамі. Дык ці ёсць канкрэтныя прапановы? Мікалай Тамашэўскі адказаў:

— Так, напрыклад, у Парыжы ў мяне ёсць сябры, якія хочуць стварыць асацыяцыю, што будзе займацца праблемамі Чарнобыля. Яны таксама гатовы да стварэння сумесных структур у галіне культуры. Адзін з важных момантаў у дзейнасці гэтай арганізацыі — аб'яднанне беларускіх суполак у Еўропе, наогул — у свеце. Місія пачэсная і важная. Пра гэта мы будзем гаварыць на сусветным форуме беларусаў, які адбудзецца ў ліпені ў Мінску.

...Напярэдадні ад'езду ў Парыж Мікалая Тамашэўскага ў нас адбылася яшчэ адна сустрэча. На гэты раз размова зайшла пра стварэнне пры газеце «Культура» клуба «Мецэнат» — культурнага дабрачыннага цэнтра для маладых талентаў. Наш госць пагадзіўся стаць яго прэзідэнтам. І гэта — не выпадкова: канцэрты студэнтаў Мінскага інстытута культуры, навучэнцаў музычнага ліцэя пры Акадэміі музыкі Беларусі ён коратка прарэцэнзаваў словамі: «Фантастыка!».

Мы ішлі па набярэжнай Свіслачы ў бок гасцініцы «Беларусь». Перад вачамі паўставаў заліты сонцам стары горад. Велічна ўзвышаўся Кафедральны сабор... Мой суразмоўца паспеў забыць пра ўчарашні хуліганскі выпадак: патлатыя незнаёмцы, калі пачулі замежную мову з ягоных вуснаў, вырашылі разжыцца валютай і выхапілі з рук Мікалая кейс.

І ўсё ж патомак роду Радзівілаў на развітанне гаварыў пра тое, што хутка зноў вернецца ў Мінск, будзе гуляць па ўтульных вуліцах горада, слухаць беларускае слова і далучацца да яго.

Так, сапраўднай славянскай душы уласцівая настальгія. А дыхаецца лёгка толькі на зямлі, дзе карані продкаў...

Людміла КОЗІНА.



*Нясвіж. Інтэр'ер фарнага касцёла. Тут, у фамільным склепе знайшлі спачын далёкія продкі Мікалая Тамашэўскага.*

# А ЗА ДЗВЯРЫМА...



Найбольшае ўражанне падчас знаходжання ў Англіі на мяне зрабілі мясцовыя музеі. А іх тут вельмі шмат, прычым самых разнастайных. Большасць з іх створана на працягу апошніх пяці гадоў. Брытанцы мэтанакіравана робяць свае музеі прывабнымі для людзей усіх узростаў і, на мой погляд, паспяхова спраўляюцца з гэтым.

Паспрабую апісаць Вам музей Робіна Гуда, зроблены ў Нотынгеме, горадзе, што знаходзіцца ў самым цэнтры Англіі.

... «А як вы мяркуеце, ці існаваў Робін Гуд? Гэта легенда ці быль?» — такім пытаннем сустрэў нас ля ўвахода малады чалавек у вопратцы разбойніка шэрўдскіх лясоў і падаў стралу Робіна Гуда.

Пасля душных пакояў і загазаванай вуліцы мы — у лесе, прасякнутым водарам лісця, траў, кветак. Бадай, самае адметнае — гэта лясное паветра. Мы не паспяваем надыхацца, як нас запрашаюць у тракцір, дзе каля стала сядзяць сяляне, адпачываючы пасля цяжкай працы за кубкам піва. Адзін распавядае пра Робіна Гуда, яго перапыняюць, хто з недаверам, хто падбадзёрваючы, але ўсіх спыняе крык: «Шэрыф!» Яго мы бачым ужо з вязніцы, скрозь краты, знаходзячыся побач з вязнем, галодным, змучаным, амаль змярцвелым. «Так будзе з кожным, хто пачне размову пра Робіна Гуда, — крычыць з перакрыўленым тварам шэрыф, — прэч адсюль, па хатах».

Мы хутка сядаем па двое ў ваганеткі і ад'язджаем у вёску: тут усюды бруд, нячыстае паветра, галеча. Жанчына ў хаце распальвае агонь, паўсюль нямыты посуд, на стале — жменька мукі. Вось на вуліцы другая жанчына з двума голымі малымі, аднаго з якіх яна трымае на руках. Далей мы бачым яшчэ адну жанчыну, рукі яе па локці у фарбе, а побач ляжыць ужо пафарбаваная тканіна. Мы ідзем у завулак і задыхаемся ад дыму — гэта падмайстар распальвае агонь, а каваль стаіць ля кавадла ў беднай кузні.

Мы бачым бы знаходзімся ў сярэднявеччы з яго змрокам і жахамі. Але досыць. Адчыняюцца дзверы, і зноў перад намі сучасны свет: кафэ, відэа- і кіназалы (тут дэманструюцца ўсе шэсць стужак, зробленых пра легендарнага Робіна ў розныя часы). Тут таксама ёсць невялікая крамка, дзе гандлююць сувенірамі.

Гляджу на ўсё гэта і думаю, як жа не падобны музей Робіна Гуда да нашых аднолькавых, як блізняты, музеяў з іх нежывымі экспанатамі і гідамі, якія штодня чытаюць адно і тое ж.

А можа, і ў нас знойдуцца прадпрымальнікі, здольныя ўвасобіць у жыццё ідэю стварэння такіх музеяў, цікавых для дарослых і дзяцей. Наколькі больш блізкай і роднай стане ад гэтага наша багатая гісторыя.

Л.ЗЫБІНА,
дырэктар Комплекса пазашкольнай работы «Золак».
г.Мінск.




*Хто з нас не знаходзіўся ў такім душэўным стане, калі ўсе жыццёвыя праблемы здаюцца невырашальнымі, калі амаль кожны дзень баліць галава, калі ты вялы, пануры, і ўвесь час хочацца спаць, а выспацца не можаш — спі хоць суткі. Таму што і ў сне не пакідаюць цяжкія думкі, прыгнечанасць, адчуванне нейкай трывогі...*

*Такі стан урачы называюць нядугамі псіха-саматычнага характару. А выклікаюць іх, як правіла, аднастайныя будні. Кожны дзень трэба хадзіць на працу, стаяць у чарзе за пакупкамі, марнаваць час на тралейбусных і трамвайных прыпынках. А часу вам заўсёды не хапае, вы заўсёды некуды спяшаецеся, заўсёды вы нецярплівыя, нервовыя, напружаныя, раздражнёныя. З усяго гэтага і вынікаюць тыя самыя псіха-саматычныя парушэнні, якія псуюць настрой, прыгнячаюць, азмрочваюць жыццё.*

Як жа прадухіліць гэта?

Вось што раіць чэшскі ўрач і псіхолаг **Ота Грэгар.**

— Пачнем з дарогі на працу. Па-першае, трэба памятаць, што лепш хадзіць пешшу — гэта карысна для здароўя, бо трэніруе не толькі мышцы ног, але і сардэчна-сасудзістую сістэму, органы дыхання. Ну, а калі без транспарту не абысціся, калі вы чакаеце трамвай ці тралейбус, не стойце проста так, а займіцеся ...гімнастыкай. Не, не той, калі трэба нахіляцца, прысядаць, круціць галавой, — маецца на ўвазе гімнастыка ізаметрычная, калі вы напружваеце мышцы ног, спіны, жывата. Напружыліся, удыхнулі, затрымалі дыханне на адну-дзве хвіліны, расслабіліся. І паўтарылі практыкаванне. Тое самае, вядома, можна рабіць і стоячы ў чарзе.

Паверце, гэта супакоіць вас, настроіць на філасофскае ўспрыманне таго, што дзеецца вакол: жыццё ёсць жыццё, і не ўсё ў ім можна змяніць. Ва ўсякім разе, імгненна.

З гэтай жа мэтай — для дасягнення ўнутранага спакою — займіцеся ізаметрычнымі практыкаваннямі для твару. Пачніце з дыхання — яго трэба супакоіць, зрабіць роўным, рытмічным. Потым расслабце куточкі вуснаў, правядзіце па вуснах языком і не сціскайце іх. Сачыце за тым, каб не былі напружанымі мышцы твару, не быў нахмураны лоб, каб бровы не сыходзіліся на пераноссі. Адным словам, здыміце з твару маску панурай задуменасці, «кіслую міну». А яшчэ прасачыце за плячыма — ці не прыўзняты яны ў вас у сутаргавым напружанні? Калі так — расслабце іх і апусціце: і шыі будзе лягчэй, і твару. І ўвесь час сачыце за дыханнем — яно павінна быць спакойным, роўным.

Калі вы прывыкнеце рабіць гэтыя практыкаванні па некалькі разоў на дзень, дык ужо толькі пры думцы аб тым, што неабходна імі заняцца, напружанасць мышцаў знікне сама па сабе. І вы зразумееце, як гэта цудоўна, калі валодаеш сабою, калі можаш кіраваць сваімі эмоцыямі, зводзіць на нішто адмоўныя і замацоўваць станоўчыя.

Калі праца ў вас «сядзячая», звярніце ўвагу на тое, як вы сядзіце. Паназірайце за калегамі, і ў іхняй позе вы, як у люстэрку, убачыце сябе: спіна сутулая, жывот не падцягнуты, цела ўсёй масай абапіраецца на спінку крэсла. Пастарайцеся не рабіць гэтага, не дазваляйце сваёй спіне абапірацца на спінку крэсла — распрастайцеся і напружвайце мышцы спіны, трымаючы пры гэтым плечы ў расслабленым стане. Паўтарыце гэтае практыкаванне некалькі разоў, і сядзець вам будзе лягчэй, знікне «сядзячая» стомленасць.




Не цяжка заўважыць, што ўсе гэтыя практыкаванні, якія тут прапануюцца, заснаваны на пачарговым напружванні пэўнай групы мышцаў па вашай уласнай волі. А калі ўвага сканцэнтравана на адной групе мышцаў, само па сабе расслабляецца ўсё цела, усе астатнія мышцы. А менавіта ў расслабленні — гарантыя душэўнага спакою.

Аднак бывае, што чалавек не можа засяродзіцца на чымсьці, дакладней, ні на чым, думкі яго разбягаюцца, мітусяцца. А гэта ўжо прыкмета блізкага стрэсу, які набліжаецца. Возьмем жанчыну. Ёй даводзіцца выконваць абавязкі і гаспадыні, і жонкі, і маці, і супрацоўніцы той ці іншай установы. І ўсе гэтыя абавязкі патрабуюць увагі, самааддачы. І, відаць, кожная жанчына скажа, што ёй не хапае ні рук, ні сіл, ні часу, каб добра справіцца з усім адразу. Яна літаральна «разрываецца на часткі», што не можа не прывесці да псіхічнага знясілення. На рабоце жанчына думае пра хатнія справы, пра дзяцей, дома — аб рабоце. Як тут не наступіць стрэс?!

Дык вось, калі вы заўважылі, што не можаце засяродзіцца на чымсьці адным, раім — дзеля прадухілення стрэсу — заняцца практыкаваннямі «на канцэнтрацыю». Ёсць два варыянты такіх практыкаванняў — канцэнтрацыя на словы і канцэнтрацыя на лічбы, на лік.

Сядзьце на крэсла (толькі не на мяккае!), пакладзіце рукі на калені і заплюшчыце вочы. Дыхайце носам, як мага спакойна. Павольна пачынайце лічыць ад адзінкі да дзесяці. Калі на нейкай лічбе думкі пачнуць рассейвацца — пачніце лічыць спачатку. Паўтарайце гэтае практыкаванне раз-пораз па некалькі хвілін.

Гэта варыянт «на лік». У той жа позе адбываецца і практыкаванне «на словы». Трэба выбраць пэўнае слова, якое звязана з нейкай прыемнай падзеяй у вашым жыцці, з лепшымі ўспамінамі. Напрыклад, гэта можа быць імя любімага чалавека, ласкавая мянушка, якую ў дзяцінстве дала вам маці, назва любімай стравы альбо мясціны і г.д.

Цяпер трэба засяродзіцца на «сваім» слове, паўтарайце яго няспынна, і гэта здыме напружанне мазгавой дзейнасці, а з цягам часу, калі зробіце практыкаванне штодзённым, гэтае «сваё» слова стане для вас запаветным, будзе здымаць псіхічнае напружанне пры першым жа ўспаміне гэтага слова. (Памятайце, што кожны раз, заканчваючы практыкаванне, трэба правесці далонямі па павеках, расплюшчыць вочы толькі пасля гэтага і пацягнуцца.)

Прывучыўшы сябе да гэтых практыкаванняў дома, вы можаце карыстацца імі і ў тралейбусе, у чарзе, у час абедзеннага перапынку. Такія псіхалагічныя паўзы дапамогуць вам ураўнаважыць нервовую сістэму, умацуюць механізм памяці. Напэўна, у вас бываюць выпадкі, калі вы не можаце ўспомніць чыёсьці прозвішча, адрас, нумар тэлефона, калі вы, ідучы на кухню, раптам спыняецеся пасярод пакоя, забыўшыся, чаго і па што вы туды ішлі. Менавіта ў такія моманты і спатрэбяцца вам вашыя навыкі ў канцэнтрацыі ўвагі на чымсьці адным.

Памятайце, што канцэнтрацыя ўвагі, як і здольнасць расслабляцца «па камандзе», — адзін з важнейшых спосабаў, якія дапамагаюць зберагчы здароўе. І фізічнае, і псіхічнае.

І яшчэ адзін момант, які дапамагае псіхічнай ураўнаважанасці не толькі вашай, але і вашых блізкіх.

Вы вяртаецеся з работы пасля напружанага дня з яго рознымі праблемамі, пасля кантактаў, не заўсёды прыемных, з начальствам, з наведнікамі, — усё гэта выклікала ў вас пэўны настрой, «узвінціла» нервы. Таму пастарайцеся не прыносіць усё гэта дадому, пакіньце свой настрой за сценамі сваёй установы. Калі ж гэта не ўдаецца, не пераносьце свой настрой на сямейных. Бо інакш вы паселіце ў сваім доме стрэс, а ён вельмі «заразны» і адразу перакінецца на вашых блізкіх, зробіць іх ахвярамі вашых «узвінчаных» нерваў. Каб гэтага не здарылася, трэба навучыцца, прыйшоўшы дадому ў дрэнным настроі, пераўвасабляцца. Для гэтага, як толькі прыйшлі з работы, правядзіце для сябе ўрок расслаблення, альбо, як яго называюць, рэлаксацыі.

Трэба сесці ў крэсла, расслабіць мышцы і спакойна пасядзець, стараючыся ні аб чым не думаць. Потым згатуйце кубачак гарбаты альбо кавы і выпіце павольна-павольна, не пашкадуйце на гэта хвілін дзесяць. Паслухайце любімую мелодыю. І ні ў якім разе не вырашайце ніякіх хатніх праблем, не бярыцеся нават за самыя неадкладныя хатнія справы. Спачатку прыміце цёплую ванну, зрабіце, лежачы ў ёй, некалькі практыкаванняў на дыханне. Напрыклад, такое: глыбокі ўздых — і твар у ваду, «вынырнулі» — і павольны выдых. Як пры плаванні. Напружанне знікне.

І вось яшчэ што: прывучыце дзяцей да таго, што калі вы прыходзіце з работы і займаецеся сабой, сваёй кавай і ваннай, —дзеці не павінны вам перашкаджаць, не павінны прыставаць з рознымі пытаннямі, скаргамі і г.д. Для іх жа карысці. Бо, адпачыўшы, зняўшы напружанне, са «свежай галавой», вы зможаце вырашыць усе хатнія справы як найлепш. Без канфліктаў, без дарэмнай траты фізічнай і нервовай энергіі. Адпачываць жа пасля вяртання з работы вам трэба не менш дзвюх гадзін — менавіта гэтыя дзве гадзіны найбольш крытычныя, найбольш пагражаюць выбухам канфлікту.

Нарэшце — аб спрэчках. У спрэчцы нічога вырашаць нельга. Бо яна толькі клапан, праз які вырываецца ваша напружанне. І гэта толькі здаецца, што «клапан» дапамог яго скінуць. Спрэчка па самой сваёй прыродзе канфліктная, яе прынцып — «вока за вока, зуб за зуб». А калі так, вам абавязкова запярэчаць. Вы адкажаце. І канца гэтаму не будзе. Таму, як толькі пачынаецца спрэчка, прымусьце сябе супакоіцца, не спяшайцеся карыстацца «клапанам», лепш адкласці размову на потым, пасля цвярозага роздуму. Тым больш калі той, з кім вы спрачаецеся, — хам альбо чалавек, які слухае толькі сябе.

І яшчэ адно назіранне: добрыя чалавечыя ўзаемаадносіны можна параўнаць з энергетычнай батарэйкай, якая дае сілы для супрацьстаяння жыццёвым цяжкасцям. А найбольш эфектыўным спосабам падзарадкі гэтай батарэйкі з'яўляецца «пагладжванне», якое неабходна і жанчыне, і дзіцяці, і загартаванаму жыццём мужчыне. «Пагладжванне» не трэба разумець літаральна, бо гэта і ветлівая ўсмешка, і пахвала, і наогул любое добрае, сардэчнае слова. І, бадай што, першым з такіх слоў з'яўляецца самае простае: «дзякуй». Яно павінна быць у нашым лексіконе пастаянна. І яшчэ — «калі ласка». Яно таксама ласкава нас «пагладжвае».

Менавіта такія «камунікацыйныя дробязі» маюць найвялікшае значэнне для ўмацавання добрых адносін у сістэмах «бацькі — дзеці», «я і мае сябры», «я і мае саслужыўцы і суседзі». А якраз добрыя адносіны з людзьмі — і самымі блізкімі, і са знаёмымі, і з тымі, з кім сустракаешся на момант, — дапамагаюць нам набыць упэўненасць у самім сабе і адчуванне паўнаты жыцця.

Калі вы «пагладжваеце» некага, дорыце яму радасць, вы і самі адчуваеце яе. А гэта — самая надзейная абарона ад стрэсу.

**Парады і меркаванні з кнігі Ота Грэгара «Жыць не старэючы» пераказала Рэгіна БАКУНОВІЧ.**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Віталь ТАРАС
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Віктар ДНЯПРОЎСКІ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220050, МІНСК (МЕНСК), вул.КІРАВА, 25, кв. 12.

Тэлефон: 27-83-18

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 11127
Замова 23

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

